


ZERO YEAR

# BATMAN™

THE NEW 52!

25 $4.99 US

SCOTT
SNYDER
GREG
CAPULLO
DANNY
MIKI






БЭТМЭН #25 (2011)
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY




НІГЕРЫЯ.


ПРОСТА НІ СЛЯДОЎ, НІ НІЦЯЎ, НІ ХЛЕБНЫХ ДРАБІНАК.
Я КАЖУ БАНАЛЬНАСЦІ, АЛЕ КАЛІ ГЭТА МЕСЦА ІСНУЕ І ЁН ЧАСТКА ЯГО, ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО НАМ ТРЭБА...
BLINK


СТОЙ, ГЛЯДЗІ!


ТАМ,
У ПЯСКУ!


ДОБРА, ДЗЯКУЙ, БОЖА, ЗА СПАДАРОЖНІКАВУЮ НАВІГАЦЫЮ.
ШТО ГЭТА?


...УАЎ.


ГРОБАНЫЯ ДЗВЕРЫ Ў ПОЛЕ.


ПАВОЛЬНА, ПРЫЯЦЕЛЬ.
НЕВЯДОМА, ШТО **ЎНУТРЫ**...



# ГОД НУЛЯВЫ

## ЦЁМНЫ ГОРАД: ЧАСТКА ДРУГАЯ


СКОТ СНАЙДАР
СЦЭНАР

ГРЭГ КАПУЛЛА
МАЛЮНАК



ДЭНІ МІКІ - растушоўка, ФРАНЦЫСКА ПЛАЦЭСІЯ - афарбоўка,
НІК НАПАЛІТАНА - шрыфты, КАПУЛЛА І ПЛАЦЭСІЯ - вокладка,
КЭЦІ КУБЕРТ - памошнік рэдактара, МАЙК МАРТС - рэдактар
БЭТМЭН СТВОРАНЫ БОБАМ КЕЙНАМ





ДЗЕ ЁН?


МЫ ЗГУБІЛІ ЯГО? СКАЖЫ, ШТО НЕ ЗГУБІЛІ!


ПЯТАЯ? ХА! ДЗЯКУЙ ФАРТУНЕ. ЭХ. КАЛІ ЁН У ГЭТЫМ ТАНЭЛЕ, ТАДЫ ЁН НАШ! МАШЫНА 39 І АСТАТНІЯ, ВЫ ЎСЕ ТАМ?


ЦУДОЎНА. ЦУДОЎНА! У МЯНЕ БЫЛА СКРЫНЯ АСКЕПКАК ГРАНАТЫ, ЯКІЯ МОЙ ТАТУЛЯ ПРЫВЕЗ З АРМІІ. «ЛІМОННЫЯ ЦУКЕРКІ». ЧАКАЮ НЕ ДАЧАКАЮСЯ, КАЛІ КІНУ КАВАЛАК «ЦУКЕРКІ» Ў КІРОЎЧУЮ СЯДУШКУ МАШЫНЫ, ЯКОЙ КІРУЕ ГЭТЫ ДЗІВАК.







ВЫ **ЛІЧЫЦЕ**?

МЫ ЛІЧЫМ, ШТО ЁН ЗБОЧЫЎ У ТАНЭЛЬ НА ПЯТАЙ! МЫ ЎСЕ ПЕРАСЛЕДУЕМ ЯГО!

ПАЛІЦЫЯ







ШТО? ШТО ТАМ? ВЫ ЯГО БАЧЫЦЕ?
МЫ БАЧЫМ ЯГО, СЭР!
А ЁН ВАС БАЧЫЦЬ?
Я ЛІЧУ, ШТО ТАК, СЭР!
І ЁН ТАРМОЗІЦЬ?
ЁН РАЗГАНЯЕЦЦА, СЭР!


МНЕ ПЕРАКРЫЦЬ ДАРОГУ, СЭР?
АЛЬФРЭД, ТЫ ЗНАЙШОЎ СВАЁ ПРЫЗНАЧЭННЕ.
ХОЦЬ Я І ЦАНЮ ВАШ...
ЦІШШШ...


...ПРОСТА ЎКЛЮЧАЙ.






«ГЭТА Ж ПРОСТА **МАШЫНА!**»

ХА.

МАШЫНА 27! ВАЛЬДЭЗ! РАЗМАЎЛЯЙ СА МНОЙ! ШТО ЯНА РОБІЦЬ?!

ПЕРАСКОКВАЕ НАС, СЭР.

**ПЕРАСКОКВАЕ?**

НЕ, СЭР, ЦЯПЕР ЯНА ПРЫЧАПІЛАСЯ.




ЧАПЛЯЕЦЦА, ПЕРАСКОКВАЕ, ШТО, Д'ЯБАЛ БЯРЫ, **ЯШЧЭ** ЯНА РОБІЦЬ?
СКАЖЫ МНЕ, ШТО ЯНА НЕ ЎХОДЗІЦЬ АД НАС. **ХЛОПЦЫ?!**




...


ВОСЬМАЕ ПАДРАЗДЗЯЛЕННЕ, ХОЦЬ СКАЖЫЦЕ МНЕ, ШТО ГЭТЫ ПСІХ НЕ ПАКІНУЎ МЕСЦА ЗЛАЧЫНСТВА ВЕЛЬМІ РАСХВАЛЯВАНЫМ...


...ГОРДАН?
О, ЯНО ХВАЛЮЮЧАЕ, КАМІСАР.
МЕСЦА ЗЛАЧЫН

ПАВЕРЦЕ МНЕ.


АЛЕ ВІДАВОЧНЫХ ПРЫЗНАКАЎ УМЯШАННЯ БЭТМЭНА НЯМА. НА ПЕРШЫ ПОГЛЯД ЗДАЕЦЦА, ШТО ЁН ПРЫЙШОЎ СЮДЫ ПРОСТА, КАБ **ПАГЛЯДЗЕЦЬ**. НІЧОГА БОЛЬШ.
ДОБРА, І ГЛЯДЗІ Ў АБОДВА ВОКА, ГОРДАН. ТАМ ПАВІННЫ БЫЦЬ ЯКІЯ-НЕБУДЗЬ СЛЯДЫ. ШТОСЬЦІ, ШТО МЫ ЗМОЖАМ ВЫКАРЫСТАЦЬ, КАБ ВЫСАЧЫЦЬ ГЭТАГА #&@$@.


ТАК. Я СКАНЦЭНТРЫЮСЯ НА ГЭТЫМ, СЭР.
ГОРДАН, Я...
ПСТРЫК
~ЭХ~


У ЦЯБЕ КАЛІ-НЕБУДЗЬ БЫЎ ПЕРАЛОМ, ХАРВІ?
КАНЕШНЕ.
МОЙ ПЕРШЫ БЫЎ У ЧАТЫРНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ У ЧЫКАГА, СКОКНУЎ ПРАЗ ПЛОТ, КАБ ЗБЕГЧЫ АД ШКОЛЬНАГА НАДЗІРАЛЬНІКА. СЦЯГНО. НІКОЛІ НЕ ЗАБУДУ, ЯК БЫЛО БОЛЬНА.

МОЖАШ ГЭТА ЎЯВІЦЬ? КОЖНАЯ КОСТКА Ў ТВАІМ ЦЕЛЕ ЛАМАЕЦЦА... РАСЦЕ І ВЫГІНАЕЦЦА, ПАКУЛЬ ТЫ НЕ ПАМРЭШ ВОСЬ ТАК.
Я ТАК РАЗУМЕЮ, ВЫ НЕ ЛІЧЫЦЕ, ШТО ГЭТА ЗРАБІЎ **ЁН**, ЛЕЙТЫНАНТ? **КАЖАН**.
МАБЫЦЬ, АЛЕ ЯКІ ЗАБОЙЦА ЗАБІВАЕ КАГОСЬЦІ, А ПОТЫМ ВЯРТАЕЦЦА НА МЕСЦА ЗЛАЧЫНСТВА, КАБ ЗНАЙСЦІ ДОКАЗЫ?
БОЖА, Я НЕ ВЕДАЮ. МАБЫЦЬ, ДАСТАТКОВА ЗВАР'ЯЦЕЛЫ, КАБ АПРАНАЦЦА, НІБЫ **КАЖАН**. Я ПРОСТА ХАЧУ СКАЗАЦЬ...


...ЁН ПРЫХОДЗІЦЬ У ГОРАД, АБЯСТОЧВАЕ НЕКАЛЬКІ КВАРТАЛАЎ, ПОТЫМ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ГЭТЫ РЫДЛЕР І АБЯСТОЧВАЕ ЎВЕСЬ ГОРАД. ЁН ПАЧЫНАЕ АПРАНАЦЦА, ЯК НА ХЭЛОЎІН – ПАЧЫНАЮЦЬ З'ЯЎЛЯЦЦА ШКІЛЕТЫ І ТРУПЫ.
РАЗУМЕЕШ, КАЛІ Б ГАЗЕТЫ ДРУКАВАЛІСЯ, ЯНЫ Б ТОЛЬКІ ПРА ГЭТА І ПІСАЛІ.
ДЗЯКУЮЧЫ ТАБЕ Я ЦЯПЕР РАДЫ ВЫКЛЮЧЭННЮ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦІ, АФІЦЭР БУЛАК. ЯК ТАБЕ **ГЭТА**?


«ГЛЯДЗІ, МОЖА, КАЖАН БЫЎ ТУТ, КАБ ЗНІШЧЫЦЬ СЛЯДЫ. ПАРУ ДЗЁН НАЗАД **ДОКТАР КЕЛЬВЕР**... ПАМЁР ПРЫ ТЫХ ЖА АБСТАВІНАХ... ЯМУ ЎВАЛІ ЯД АДРАЗУ ПЕРАД ТЫМ, ЯК ПАДПАЛІЦЬ ЛАБАРАТОРЫЮ».
«...І КАЖАН БЫЎ ТАМ...»
«...ДАКЛАДНЕЙ, ПАКУЛЬ ЁН НЕ **СЫШОЎ**».


САПРАЎДЫ, ПАКУЛЬ НЕ СЫШОЎ.
СЛУХАЙ. Я ТОЛЬКІ ХАЧУ СКАЗАЦЬ, КАЛІ ЁН ХОДЗІЦЬ, ЯК КАЖАН, ГАВОРЫЦЬ, ЯК КАЖАН, ТАДЫ ЯКОГА ЛЕСА?
КАЖАНЫ НЕ ХОДЗЯЦЬ І НЕ РАЗМАЎЛЯЮЦЬ, ДЭТЭКТЫЎ. ЦЯПЕР ПАСЛУХАЙ МЯНЕ...

«...ТЭРАРЫСТ ТОЛЬКІ ШТО НАНЁС ШКОДУ ГОРАДУ. УСЯМУ. ВІДАВОЧНА, ВЯЛІКІ ШТОРМ НАБЛІЖАЕЦЦА ДА ГОРАДА... **РЭНЭ**. ЯК КАЖУЦЬ ЛЮДЗЕ Ў НАВІНАХ, СТАРЫ РЭНЭ НАВАТ МОЖА БЫЦЬ **СУПЕРШТОРМАМ**».

«ТЫМ ЧАСАМ ЛАЭБ ПАСЫЛАЕ КОПАЎ ШУКАЦЬ САМАЎПРАЎЦА, ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ АБАРАНЯЦЬ СВЕТ. ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ЗАРАЗ ГОРАД У РУКАХ Д'ЯБЛА. БЕЗ СВЯТЛА, ДЗІКІ І Ў ПАНІЦЫ...»



























...НЯХАЙ РОБІЦЬ ГЭТА. ПА МЕНЬШАЙ МЕРЫ, НА ДАДЗЕНЫ МОМАНТ МЯНЕ КЛАПОЦЯЦЬ ТЫЯ, ХТО **ШКОДЗІЦЬ** ЛЮДЗЯМ. ЯК НАПРЫКЛАД ВАР'ЯТ, ЯКІ ЎВОДЗІЦЬ ЛЮДЗЯМ НЕЙКУЮ ЧАРТАЎШЧЫНУ, ПЕРАЎТВАРАЮЧУЮ ІХ КОСТКІ Ў СЦЕБЛЫ.
ШТО ВЯРТАЕ НАС ДА БЕДНАГА ДОКТАРА ПАХІ. «ТЭАРЭТЫЧНЫ БАТАНІК» (ШТО Б ГЭТА НІ АЗНАЧАЛА) З УЭЙН ЭНТЭРПРАЙЗІС. ЗНАЙШЛІ СВЕДКАЎ?
АДНАГО.
НЕЕЕЕЕ!


НЕ! ГЭТАГА НЕ МОЖА БЫЦЬ.
ДОКТАР АЙСЛІ, КАЛІ ЛАСКА, ВАМ НЕЛЬГА ТУТ ЗНАХОДЗІЦЦА.


**ПАМЭЛА АЙСЛІ.** НАВУКОВЫ СУПРАЦОЎНІК. ШЧЫРА КАЖУЧЫ, ЯНА, ЗДАЕЦЦА, БОЛЬШ ЗАСМУЧАНА З-ЗА РАСЛІН.
НІЧОГА ПА СУТНАСЦІ...
ЯК КРАНАЛЬНА. І ЯНА БАЧЫЛА ЗАБОЙЦУ? ШТО ЯНА КАЖА?


«...КАЖА, ШТО БАЧЫЛА, ЯК НЕХТА, КАГО ЯНА НЕ ЗМАГЛА ЎЗГАДАЦЬ, УВАХОДЗІЎ ПА САПРАЎДНАМУ ПРОПУСКУ ПРЫКЛАДНА ЗА ГАДЗІНУ ДА ТАГО, ЯК ЗНАЙШЛІ ЦЕЛА».


«НАПЭЎНА, ШМАТ НЕЗНАЁМЫХ ЛЮДЗЕЙ ПРАХОДЗІЦЬ У БУДЫНАК ТАКОЙ ВЕЛІЧЫНІ ПА САПРАЎДНЫМ ПРАПУСКАМ. ЧАМУ ГЭТЫ ЧАЛАВЕК ПАДАЎСЯ ДОКТАРУ АЙСЛІ ТАКІМ АСАБЛІВЫМ?»


«НУ, ВІДАВОЧНА, БЫЛО ЦЁМНА, І ЯНА НЕ РАЗГЛЕДЗЕЛА... АЛЕ ГАВОРЫЦЬ, ЁН БЫЎ ПАДОБНЫ НА **ШКІЛЕТ**».


«ШКІЛЕТ». МОЖА, ГЭТЫ ХЛОПЕЦ ГАТУЕ САМАГОН.
ШТО Ж, АДНО МОЖНА СКАЗАЦЬ З УПЭЎНЕННАСЦЮ, АФІЦЭР БУЛАК. У ЦЕМРЫ ГЭТЫ ГОРАД ЯШЧЭ БОЛЬШ **ДЗІЎНЫ**.




ПЫТАННЯЎ НЯМА. ГЭТА ГЕНЕРАТАР ПЕРАШКОДАЎ. Я ПРАВІЛЬНА ЗРАЗУМЕЎ?
ТАК, НІГМА, ЦІ «РЫДЛЕР», ЯК ЁН СЯБЕ ЗАВЕ, АДКЛЮЧЫЎ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ, АДАСЛАЎШЫ РАЗЛІЧАНЫ ІМПУЛЬС ПРАЗ ЦЭНТРАЛЬНЫ ВУЗЕЛ ЭНЭРГАСЕЦІ ПАД ЦЭНТРАМ ГОРАДА.
ІМПУЛЬС ПАШКОДЗІЎ УСЁЙ ГЭТАЙ ЧАСЦЫ СЕЦІ.


НАМ ТРЭБА БУДЗЕ ШТО-НЕБУДЗЬ З ІМІ ЗРАБІЦЬ, СЭР. З **КАЖАНАМІ**. КАЛІ ВЫ ПЛАНУЕЦЕ ТРЫМАЦЬ ТУТ ДАРАГОЕ АБСТАЛЯВАННЕ.
Я ПАКЛАПАЦІЎСЯ АБ ГЭТЫМ, АЛЬФРЭД.


«НА ШЧАСЦЕ, ГОТЭМСКІЯ ЭЛЕКТРЫКІ ХУТКА ПАЧЫНЯЦЬ ЯЕ. НЕ ПАЗНЕЙ, ЧЫМ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН. СПАДЗЯЮСЯ, РАНЕЙ, ЧЫМ ПАЧНЕЦЦА ШТОРМ».


СПРАВА Ў ТЫМ, ШТО Я **СУСТРАКАЎ** НІГМУ. Я ВЕДАЮ ЯГО ЦІ ЧАЛАВЕКА, ПАДОБНАГА НА ЯГО. ГЭТА АДКЛЮЧЭННЕ, ЁН ПАДАЎ ГЭТА ЯК **ЗАГАДКУ** ГОРАДУ.
ЁН ХОЧА, КАБ МЫ ВЯРНУЛІ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ, КАБ ЁН ЗНОЎ НЕЙКІМ НОВЫМ ЧЫНАМ ЗМОГ УДАРЫЦЬ ПА СЕТЦЫ. БЫЦЦАМ ЦЯГАЕ ЗА НІТАЧЦЫ.


РЫДЛЕР: ХТО ТАКІ ЭДВАРД НІГМА? ЯШЧЭ АДЗІН ПСЕЎДАНІМ?
ШТО Б ЁН НІ ЗАДУМАЎ, ЛІЧУ, ГЭТА БУДЗЕ З УДЗЕЛАМ ЧАРГОВАЙ ЭЛЕКТРЫЧНАЙ АТАКАЙ.
ГЭТАГА ГЕНЕРАТАРА ПЕРАШКОДАЎ ПАВІННА БЫЦЬ ДАСТАТКОВА, КАБ СПЫНІЦЬ УСЁ, ШТО ЁН ЗАПЛАНАВАЎ.
ЁН ПАДВОЙНЫ, МОЦНЫ І АДФІЛЬТРОЎВАЕ ЎСЁ, ШТО ЎСПРЫМАЕ ЯК СКАЧОК НАПРУГІ. МНЕ ТРЭБА ТОЛЬКІ СКОНЧЫЦЬ З ІМ І СХАВАЦЬ У **ЭНЭРГАВУЗЛЕ.**
ЦІ НЕ ПАДАСІ МНЕ ФУТБОЛКУ, АЛЬФРЭД?










ВОСЬ РЭЗУЛЬТА-ТЫ АНАЛІЗУ КРЫВІ АБЕДЗЬВУХ АХВЯР. І ТОЕ, ШТО Я БАЧУ, НЕ МАЕ **СЭНСУ**.

Я ІЗАЛЯВАЎ ФОРМУ-ЛУ, ЯКУЮ ІМ ПАВІННЫ БЫЛІ ЎВЕСЦІ. ДОКТАР ДЭЛЬ ПАХІ І ДОКТАР БІЛ КЕЛЬВЕР. АБОД-ВА ДАСЛЕДЧЫКІ З УЭЙН ЭНТЭРПРАЙЗІС.

БІЯХІМІЧНЫ СКЛАД БОЛЬШ ПРАСУНУТЫ, ЧЫЎ ВА **ЎСЯГО**, З ЧЫМ Я РАНЕЙ СУТЫКАЎСЯ. Я НЕ ВЕДАЮ ДАКЛАДНА, ЯК ГЭТА АДБЫВА-ЕЦЦА, АЛЕ ЯНА ПРЫМУШАЕ КОСТКІ ПРАЗ-МЕРНА РАСЦІ, ПАКУЛЬ ЧАЛАВЕКА ПРАКТЫЧНА НЕ **РАЗАРВЕ** ЗНУТРЫ.

АЛЕ ГЭТА ЯШЧЭ НЕ САМАЕ ЦІКАВАЕ. Я ПРАПУСЦІЎ ФОРМУЛУ ПРАЗ УСЯЛЯКІЯ БАЗЫ ДАДЗЕНЫХ, КАБ ПА-ГЛЯДЗЕЦЬ, ХТО Б МОГ ЯЕ РАСПРАЦАВАЦЬ.

І ГЭТА **МЫ.** ПАТЭНТ НА ГЭТУЮ ФОРМУЛУ НАЛЕЖЫЦЬ УЭЙН ЭНТЭРПРАЙЗІС. ЯНА БЫЛА РАСПРАЦАВАНА **ДОКТАРАМ КАРЛАМ ХЕЛФЕРНАМ**.

АДЗІН З ЛЮДЗЕЙ ФІЛІПА?

НЕ МАГУ СКАЗАЦЬ. УСЕ ЗАПІСЫ ПРА ЯГО **ЗНІШЧАНЫ**. АЛЕ ТАК ПАЧЫНАЕ ПРАГЛЯДВАЦЦА МАТЫЎ, КАЛІ ДОБРА ПРЫГЛЯДЗЕЦЦА.
БЫЛЫ ВУЧОНЫ ЎЭЙНА ЗАБІВАЕ ДЗЕЯСНЫХ ВУЧОНЫХ ЎЭЙНА... ХЕЛФЕРН МОЖА СТАЯЦЬ ЗА ЎСІМ ГЭТЫМ.
Я ПЕРАГЛЯДЗЕЎ УСЕ ЗАПІСЫ Ў ГОТЭМЕ ПРА ДАСЛЕДВАННІ, ШТО **ЗВЯЗАНЫЯ З КОСТКАМІ**. Я ЗМОГ ЗНАЙСЦІ ТОЛЬКІ ЧАРГУ ЖАХАЎ. ШЭРАГ НЕЛЕГАЛЬНЫХ ЛАБАРАТОРЫЙ, У ЯКІХ ПАДДОСЛЕДНЫХ ЖЫВЁЛІН РАЗРЫВАЛА НА КАВАЛКІ ІХ ЖА ДЭФАРМІРАВАНЫМ ШКІЛЕТАМ.
НІКОГА НЕ АРЫШТАВАЛІ, АЛЕ ТОЙ, ХТО СТАІЦЬ ЗА ГЭТЫМІ ІНЦЫДЭНТАМІ, АТРЫМАЎ МЯНУШКУ **«ДОКТАР СМЕРЦЬ»**.
ДОКТАР СМЕРЦЬ. **МІЛА**. КАЛІ ХЕЛФЕРН ГЭТЫ «ДОКТАР СМЕРЦЬ», ЯК ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ ЯГО ЗНАЙСЦІ?
А ПАГУТАРУ З АДЗІНЫМ ЧАЛАВЕКАМ У ГОТЭМЕ, ЯКІ МОЖА ХОЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ ПРА ЯГО ВЕДАЦЬ.
ВІДАЦЬ, ВЫ ЎСЁ ПРАДУМАЛІ, СЭР. МАГЧЫММА, ВАМ ВАРТА ПАДУМАЦЬ ПРА ТОЕ, КАБ ІНФАРМІРАВАЦЬ ДЭПАРТАМЕНТ ПАЛІЦЫІ...
НЕ.
ЗДАЕЦЦА, ВЫ ВЫРАШЫЛІ ЗРАБІЦЬ ІХ СВАІМІ **ВОРАГАМІ**, МАЙСТАР БРУС.
Я ДАЎ ІМ ФЛОТ ДЫРЫЖАБЛЯЎ.
КАБ **САЧЫЦЬ** ЗА ІМІ.
Я ІМ НЕ ДАВЯРАЮ, АЛЬФРЭД. ПАЛІЦЫЯ ЎСЯ БЫЛА КАРУМПІРАВАНА ЯШЧЭ ДА ТАГО, ЯК БАНДА ЧЫРВОНАГА КАЎПАКА НЕ ПРАНІКЛА Ў ЯЕ. НАВАТ КАЛІ ЦЯПЕР ЧЫРВОНЫ КАЎПАК ЗНІК, ХТО ВЕДАЕ.
НА МАЮ ДУМКУ, У ПАЛІЦЫІ НЯМА **НІ АДНАГО** ДОБРАСУМЛЕННАГА ЧАЛАВЕКА.

ШТО ВЫ ГАВОРЫЦЕ, МІСТАР УЭЙН?










МІСТАР УЭЙН... БРУС.
ПАСЛУХАЙ, Я ВЕДАЮ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ ТОЙ НОЧЧУ...


«...Я ВЕДАЮ, ТЫ ЗЛУЕШСЯ НА МЯНЕ, АЛЕ ЁСЦЬ ТАЙНЫ НАКОНТ ТАГО, ШТО НА САМОЙ СПРАВЕ...»


НА **ВАС**?
ЛЕЙТЭНАНТ, Я ВЕДАЮ ЎСЁ, ШТО, ЯК ВЫ ЛІЧЫЛІ, НІХТО НЕ ДАВЕДАЕЦЦА. УСЁ, ШТО ВЫ ЗАМОЎЧВАЛІ.
ТАМУ БОЛЬШ НАВАТ НЕ ЗАГАВОРВАЙЦЕ СА МНОЙ ПРА ТУЮ НОЧ, ПАКУЛЬ НЕ БУДЗЕЦЕ ГАТОВЫЯ ДА САПРАЎДНАЙ АГІДЫ.


ДОБРА.
АЛЕ ДВА ВАШЫХ ВУЧОНЫХ МЁРТВЫЯ. АТРУЧАНЫЯ НЕЙКАЙ СЫРОВАТКАЙ, ЯКАЯ ПРЫМУСІЛА ІХ ЧОРТАВЫ КОСТКІ РАЗАРВАЦЬ ІМ СКУРУ.
ЁСЦЬ СПРАВЫ **ПАВАЖНЕЙ**, ЧЫМ НАШЫ АСАБІСТЫЯ ПРАБЛЕМЫ.


ЯК Я І СКАЗАЎ, МНЕ ТРЭБА ІСЦІ.


ДОБРА, МІСТАР УЭЙН. ТОЛЬКІ АДНО ПЫТАННЕ.


ШТО ТАМ УНІЗЕ?


ЧАМУ ВЫ ПЫТАЕЦЕСЯ?
Я ПРОСТА ЦІКАЎЛЮСЯ СТАРЫМІ ДАМАМІ.
Я ЧУЮ ГЕНЕРАТАРЫ... ЭНЭРГІЯ ПАСТУПАЕ Ў ВАШ ДОМ АДСЮЛЬ?
МЫ ПРОСТА...
ЧАМУ Б ВАМ НЕ ЗАЗІРНУЦЬ?

...
НУ ЖА.

СЭР, Я...
УСЁ Ў ПАРАДКУ, АЛЬФРЭД. ЁН ХОЧА ЎБАЧЫЦЬ. **НЯХАЙ**.

ДОБРА.









ВЫ ПАВІННЫ БЫЛІ ЎБАЧЫЦЬ, ЛЕЙТЭНЕНТ ГОРДАН.
ГЕНЕРАТАРЫ ЗАНАДТА ГРУВАСТКІ, КАБ ТРЫМАЦЬ ІХ У МАЁНТКУ.
МЫ ЗАХОЎВАЕМ ІХ УНІЗЕ. АЛЕ ПРАБЛЕМА Ў ТЫМ, ШТО ЯНЫ ПРЫВАБЛІВАЮЦЬ **КАЖАНОЎ**. МЫ РАСПЫЛЯЛІ СПРЭЙ ТАМ УНІЗЕ.


А ЦЯПЕР, Я ЎПЭЎНЕНЫ, ВАМ ЁСЦЬ, ЧЫМ ЗАНЯЦЦА.


ВОСЬ У МЯНЕ **ЁСЦЬ**.


ГОТЭМСКІ УНІВЕРСІТЭТ
ІНЖЫНЕРНАЯ ШКОЛА.






ЛЮЦЫЮС...
...ЛЮЦЫЮС ФОКС.


ХТО ГЭТА!?


КАБ МНЕ ПРАВАЛІЦЦА...










ЁН БЫЎ З ГРУПЫ, ЯКУЮ Я ЗАПРАСІЎ, КАЛІ ТВОЙ ДЗЯДЗЯ ТОЛЬКІ ПРЫНЯЎ КІРАЎНІЦТВА. УСЯГО ІХ БЫЛО ПЯЦЁРА. КЕЛЬВЕР, ПАХІ, БРУКЕР, ДЫДС... І **ЁН**. ХЕЛФЕРН У СВАЁЙ ГАЛІНЕ БЫЎ САПРАЎДНЫМ ГЕНІЕМ.

ЁН ЗАЙМАЎСЯ НАНАМЕДЫЦЫНАЙ І Ў ЯГО БЫЛА **ІДЭЯ** СЫРОВАТКІ, ЯКАЯ ПРЫЧАПЛЯЛАСЯ Б ДА КЛЕТАК КОСТНАГА МАТРЫКСА І ПРЫМУШАЛА Б ТКАНІНЫ... РЭАГАВАЦЬ.

**РЭАГАВАЦЬ?**

ТАК. АПРАЦАВАНЫЯ КОСЦІ Ў АДКАЗ НА ТРАЎМУ СТАНАВІЛІСЯ Б ЦВЯРОЗЕЙ У МЕСЦАХ УДАРА. НАВАТ ВЫРАСТАЛІ Б НОВЫЯ КЛЕТКІ. У ГЭТАГА БЫЎ БЫ ВЯЛІКІ ПАТЭНЦЫЯЛ. ЧЭРАП САЛДАТА АБАРАНЯЎ БЫ ЯГО МОЗГ АД КУЛЬ.

ШТО З ІМ ЗДАРЫЛАСЯ?

...АЛЕ ЯНА БЫЛА НЕСТАБІЛЬНАЙ, НЕПАДКАНТРОЛЬНАЙ... ТАКІМ ЖА СТАЎ І ХЕЛФЕРН.

АПОШНЯЕ, ШТО Я ЧУЎ, ЁН ПРАЦАВАЎ НА РОЗНЫЯ «ЧОРНЫЯ СКРЫНІ» ПА ЎСЯМУ ГОРАДУ. ТАЕМНЫЯ, ФІНАНСУЕМЫЯ ПРЫВАТНЫМІ АСОБАМІ НЕРЭГУЛЯВАНЫЯ ЛАБАРАТОРЫІ. УСЁ ПРАЦУЕ НАД СВАЁЙ САВОРАТКАЙ.

ЁСЦЬ ЯШЧЭ НЕШТА, ШТО ВАЖНА ВЕДАЦЬ ПРА ГЭТУЮ СЫВОРАТКУ, БРУС...









ПРАБАЧ, БРУС, АЛЕ ЁН ІДЗЕ.

**ДОКТАР СМЕРЦЬ** ІДЗЕ І ТЫ НЕ ЗМОЖАШ **СПЫНІЦЬ ЯГО**.

**НІХТО** НЕ ЗМОЖА, СТАРЫНА. БО, ПАВЕР МНЕ...


...ГЭТЫ ГОРАД, ЯШЧЭ НЕ БАЧЫЎ **НІЧОГА** ПАДОБНА-ГА МНЕ.
А Я Ж ЯШЧЭ **ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЮ**.


КОПІ, ТЫ МЯНЕ ЧУЕШ?
ТАМ ХТО-НЕБУДЗЬ ЁСЦЬ?


ШТО ЗДАРЫЛАСЯ? ШТО ТАМ БЫЛО?


ПРАКЛЯЦЦЕ, РАЗМАЎЛЯЙЦЕ СА МНОЙ! ЯКОГА ПЯРУНА ТАМ АДБЫВАЕЦЦА?!

# ЛЮДЗІ Ў ЦЕМРЫ

СКОТ СНАЙДАР І ДЖЭЙМС ЦІНІЁН IV
ЭНДЗІ КЛАРК
ДЭЗІ СІЕНЦІ
КЭЦІ КУБЕРТ
МАЙК МАРТС
БЭТМЭН СТВОРАНЫ БОБАМ КЕЙНАМ


МНЕ ГЭТА НЕ ПАДАБАЕЦЦА, ХАРПЕР...
МНЕ ТАКСАМА, КАЛЕН. ПРОСТА... ЗАБУДЗЬ НА ЯГО. ЁН ЖА НАМ НЕ ПАТРЭБНЫ, ТАК?
СХЕМЫ


ПАМЯТАЕШ, КАЛІ МЫ БЫЛІ Ў БАБУЛІ НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ РАНЕЙ? У ПАЛАТЦЫ, КАЛІ НАЧНІК ЗГАС...
ТЫ ТАК **СПУЖАЎСЯ**, І МЫ НЕ ВЕДАЛІ, ЯК ВЯРНУЦЦА ДАДОМУ.


ПАМЯТАЕШ, ШТО Я СКАЗАЛА?
ТЫ СКАЗАЛА, ШТО ЦЕМРА Ў МАЁЙ ГАЛАВЕ... ТЫ СКАЗАЛА, ШТО МНЕ ТАК СТРАШНА, БО Я НЕ **БАЧУ** ЦЯБЕ.
ГЭТА ТАК.


У ЦЕМРЫ СТРАШНА. **ВІДАВОЧНА**. НЕ ВЕДАЕШ, ШТО ВАКОЛ ЦЯБЕ, ШТО ХАВАЕЦЦА ПА КУТАХ.
УЯЎЛЯЕШ УСЁ ДРЭННАЕ, ШТО ТАМ МОЖА БЫЦЬ, І СТАНОВІЦЦА ТАК **ЛЁГКА** ЗАБЫЦЬ ПРА ДОБРАЕ...


...АЛЕ Ж **Я** ТУТ.
ПЭЎНА... ТАК...
КАНЕШНЕ, ТУТ, КАЛЕН.
ДОБРА,
СХЕМЫ




«АЛЕ ЁСЦЬ **АСАБЛІВЫЯ ЛЮДЗІ**, КАЛЕН...»









«...ЛЮДЗІ, ЯКІЯ БАЧАЧЦЬ УВЕСЬ ГЭТЫ СТРАХ І ЎСЁ ДРЭННАЕ, АЛЕ ЯНЫ **ПАДЫМАЮЦЦА І РОБЯЦЬ** ШТОСЬЦІ З ГЭТЫМ...»

«...І ХОЦЬ МЫ ІХ І НЕ БАЧЫМ, МЫ ПАВІННЫ ПАМЯТАЦЬ, ШТО ЯНЫ **ЁСЦЬ**».









ПАМЯТАЕШ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ Ў ПАЛАТЦЫ ТОЙ НОЧЧУ? НАВАТ МНЕ БЫЛО ЗАНАДТА СТРАШНА, КАБ СПРАБАВАЦЬ ЗНАЙСЦІ ШЛЯХ ДАДОМУ.

АЛЕ ТЫ ГЭТА ЗРАБІЎ. ТЫ СКОНЧЫЎ ПЛАКАЦЬ І АДВЁЎ НАС. ТЫ ЎСПОМНІЎ ШЛЯХ.



БАЧЫШ, КАЛЕН, ТЫ АДЗІН З ГЭТЫХ ЛЮДЗЕЙ. ТЫ МОЦНЫ.

ШТО... ШТО ТЫ РОБІШ?

ПСТРЫК

ОЙ, ЛЁГКА ПАДКЛЮЧЫЦЬ НЕШТА ТАКОЕ. Я ПРАЧЫТАЛА СЁННЯ ЎСЮ КНІГУ.

Я ЛІЧУ, ТЫ РАЗУМНЕЙ ЗА ТАТУ.

Я **ВЕДАЮ**, ШТО РАЗУМНЕЙ ЯГО.

НУ ДЫК ШТО, ЦЯПЕР ТЫ ГАТОВЫ ЛЕГЦІ СПАЦЬ?

ДОБРА. МОЖАШ ВЫКЛЮЧЫЦЬ ЯГО.

ПСТРЫК

Я ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, БЛАЗАН.

І Я ЦЯБЕ, СМУРОДНІЦА.

КАНЕЦ